

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

з Алесем СІВЫМ

# Баскаў – туды, Багдановіч – сюды…

На мінулым тыдні ў адзін дзень на сайце Міністэрства спорту і турызму з'явіліся два невялікія паведамленні.

Першае інфармавала, што *«ў штаб-кватэры Нацыянальнага алімпійскага камітэта адбылося пасяджэнне пазачарговай рэспубліканскай справаздачна-выбарчай канферэнцыі грамадскага аб'яднання «Беларуская федэрацыя веславання»*, падчас якога *«на пасаду старшыні быў пераабраны Аляксандр Машэнскі»*.

Другая абвестка даводзіла да грамадства, што *«абраны новы кіраўнік Федэрацыі хакея Беларусі – ім стаў алімпійскі чэмпіён Аляксандр Багдановіч»*.

У такіх выпадках кажуць: усё змяшалася ў доме Аблонскіх. Паспяховы бізнесмен **Аляксандр Машэнскі**, у якога, упэўнены, хапае праблем і на асноўнай працы, павінен думаць яшчэ і пра веславанне, а алімпійскі чэмпіён па веславанні Аляксандр Багдановіч будзе займацца развіццём хакея ў Беларусі.

Якое дачыненне мае той жа Багдановіч да хакея? Ды практычна ніякага! У федэрацыі паведамілі, што славуты вясляр *«з хакеем пазнаёміўся паралельна нядаўна, гуляе ў аматарскім чэмпіянаце Мінска, у мінулым сезоне выступаў у якасці форварда за каманду другой лігі «Варяг»*.

Што датычыцца Машэнскага, то, вядома, што ён *«мае спартыўныя разрады па барацьбе, веславанні на байдарках і спартыўнай гімнастыцы»*. Адным словам, патэнцыйна гэты бізнесмен мог узначаліць яшчэ як мінімум дзве федэрацыі. Праўда, у федэрацыі гімнастыкі ў яго маглі ўзнікнуць праблемы: з 2014 года ёю кіруе бізнесвумен **Алена Скрыпель** – дырэктар кампаніі Helen Valery і кіраўнік сеткі магазінаў Duty Free, а два бізнесмены ў адной спартыўнай федэрацыі – гэта ўжо занадта.

Зрэшты, для многіх не сакрэт, што рашэнні аб прызначэнні таго ці іншага кіраўніка федэрацыі лабіруюцца і ўзгадняюцца на самым версе, а таму на першае месца часам выходзяць зусім не прафесійныя паказчыкі, а жаданне і ўменне прытрымлівацца «лініі партыі», а таксама наяўнасць у кішэні грошай. Таму, калі партыя кажа «Трэба!», камсамольцы адказваюць: «Так!»

Дарэчы, **Аляксандр Лукашэнка** яшчэ месяц таму анансаваў кандыдатуру новага кіраўніка федэрацыі хакея: *«Вельмі вопытны, разумны чалавек, які ўжо прайшоў палітычную загартоўку»*.

Не застаўся пакрыўджаным і былы старшыня хакейнай федэрацыі **Дзмітрый Баскаў**, які быў прызначаны ў Савет Рэспублікі *«не толькі таму, што ён патрыёт, аддады краіне чалавек»*, але яшчэ і як чалавек *«разумны і дасведчаны»*.

Калі хто не памятае, то ў верасні гэтага года незалежная дысцыплінарная калегія Міжнароднай федэрацыі хакея дыскваліфікавала Дзмітрыя Баскава на 5 гадоў. Рашэнне было прынята пасля дзесяці месяцаў расследавання, праведзенага калегіяй, якая ўстанавіла, што Баскаў парушыў Кодэкс паводзін Міжнароднай федэрацыі хакея.

11 лістапада мінулага года ў Мінску на так званай Плошчы Перамен невядомыя напалі на мясцовага жыхара **Рамана Бандарэнку**, які абараняў бел-чырвона-белыя стужкі, збілі яго і звезлі на мікрааўтобусе. У выніку хлопец, якога затым з РУУС даставілі ў бальніцу, памёр.

Пазней у СМІ былі апублікаваны матэрыялы, паводле якіх некаторыя прыйшлі да высновы: чалавек, які напаў на Бандарэнку, вельмі падобны на шматразовага чэмпіёна свету па тайскім боксе і кікбоксінгу **Дзмітрыя Шакуту**. Акрамя яго на відэа быў зафіксаваны мужчына, вельмі падобны на кіраўніка Беларускай федэрацыі хакея **Дзмітрыя Баскава**.

Міжнародныя хакейныя структуры пачалі расследаванне, і дысцыплінарная калегія заявіла аб наяўнасці дастатковых доказаў таго, што спартыўны функцыянер спрабаваў *«наўпрост аказваць уплыў на іншых, з тым каб яны падтрымлівалі ўрад Беларусі, а таксама пагражаў і дыскрымінаваў беларускіх спартсменаў з-за іх палітычных перакананняў»*.

Таксама вызначана, што *«Баскаў злоўжываў сваім становішчам прадстаўніка федэрацыі хакея, каб падтрымаць Аляксандра Лукашэнку, парушыўшы артыкул 5 Алімпійскай хартыі»*.

Баскава прыбралі з федэрацыі, але, як бачым, святое месца пустым не застаецца. Хаця ў найноўшай гісторыі беларускі спорт бачыў і не такое.

Федэрацыяй футбола кіравалі старшыня Камітэта па авіяцыя **Рыгор Фёдараў**, дзяржсакратар Савета бяспекі **Генадзь Нявыглас**, сёння на гэтай пасадзе – былы ваенны камісар Брэсцкай вобласці і экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Базанаў.**

Федэрацыю хакея ўзначальвалі міністр унутраных спраў **Уладзімір Навумаў**, кіраўнік Дзяржаўнага памежнага камітэта **Ігар Рачкоўскі,** старшыня Мінскага аблвыканкама **Сямён Шапіра**…

У 2014 годзе Ігар Рачкоўскі сваё прызначэнне пракаментаваў коратка: *«Я – чалавек ваенны, прывычаіўся заўсёды ісці наперад»*. Затым яму задалі пытанне: «Вы ўзначальваеце яшчэ і федэрацыю парусная спорту. Ці дапаможа вам гэты вопыт у хакеі?» На гэта Ігар Анатольевіч адказаў па-ваеннаму прама і шчыра: *«Парус і хакей вельмі блізкія віды спорту. У іх адна аснова – вада. Толькі ў адным выпадку ў вадкім стане, а ў другім – у замарожаным»*.

Таму якая розніца – парус, хакей ці веславанне? У аснове ж – вада. Таму Баскаў – туды, Багдановіч – сюды…

ИНТЕРЕСНО ЗНАТЬ...

# Царственная «репка»

В Йельском университете (США) хранятся небольшого размера глиняные таблички – первые в мире кулинарные книги. Их не могли расшифровать до 1985 года, пока за дело не взялся выдающийся французский ассириолог **Жан Боттеро**, который к тому же весьма преуспел в поварском деле. Основные принципы готовки и рецепты изложены в его труде «Самая старая кухня в мире: приготовление пищи в Месопотамии».

На самой крупной табличке, расшифрованной Боттеро, 25 рецептов: 21 мясное блюдо, три овощных блюда и одно вегетарианское. Вид мяса в рецептах не указан. Историк уверял, что в то время это были курятина, баранина и говядина.

Боттеро установил, что представители одной из древнейших цивилизаций просто обожали лук. Древняя кухня, считал Боттеро, пришлась бы по вкусу далеко не каждому современному гурману. Мало кто всерьез наслаждался бы очень солеными блюдами с огромным содержанием чеснока и лука – а именно так готовили пищу 4000 лет назад.



## Диетологи – о пользе лука

Врач-диетолог, нутрициолог, член ассоциации диетологов Канады **Наталья Нефедова** считает лук незаменимым продуктом для здорового образа жизни.

По ее словам, репчатый лук содержит витамины и минералы, клетчатку и множество фитовеществ. Благодаря своему уникальному химическому составу он способен подавлять воспалительные процессы в организме и укреплять иммунитет. В холодное время года для укрепления иммунитета требуется съедать всего лишь половину луковицы в день. Также насыщенный вкус лука помогает снизить потребление соли.

При этом Нефедова призвала не воспринимать лук как лекарство, которое нужно принимать лишь тем, кто уже заболел. Она посоветовала есть этот продукт регулярно, для профилактики. Диетолог подчеркнула, что лук полезен людям с сердечно-сосудистыми и онкологическими заболеваниями, а также диабетом. Кроме того, установлено, что лук является отличным сжигателем жира, на его основе даже разработана диета, в основе которой – луковый суп.

*«Единственное – потом будет запах. Но не изо рта – на самом деле будет пахнуть от кожи, потому что вещества будут выделяться через поры»*, – сказала врач. Кроме того, некоторые люди могут страдать непереносимостью репчатого лука.

## Интересные факты

* Лук – самый распространенный продукт в мире: его посевы в несколько раз превышают посевы пшеницы – главного рекордсмена по объему урожая.

* Свое латинское название «Allium» лук получил благодаря знаменитому естествоиспытателю Карлу Линнею, который дал названые овощу от кельтского слова all – «жгучий».

* На территории Европы лук стали употреблять в бронзовом веке.

* Лук наряду с чесноком был знаменит за 30.000 лет до нашей эры. Известный античный историк Геродот писал в своих трудах, что при строительстве знаменитой пирамиды Хеопса было затрачено большое количество денежных средств на покупку для рабов лука, чеснока и редьки.

* В эпоху Средневековья, во времена великих крестовых походов, лук был продуктом, входившим в ежедневный рацион каждого рыцаря. Лук был настолько популярным в те времена, что всего за 8 луковиц христиане могли выменять у сарацинов одного своего плененного товарища.

* Согласно статистике, составленной специалистами ООН, первое место по потреблению лука на одну душу населения можно считать Ливию: среднестатистический житель этой страны употребляет в год около 33 килограммов лука. Второе место можно отдать Сенегалу (до 22 килограммов в год). Далее в списке идут англичане (9,3) и французы (5,6 килограмма).

* Свое название репчатый лук получил из-за схожести по внешнему виду с репой.

* Лук-порей в Великобритании считается национальным символом Уэльса. По легенде, епископ и просветитель Давид Валлийский приказал своему войску перед битвой с саксами прицепить к шлемам лук-порей как отличительный знак. С тех пор 1 марта – День битвы на луковом поле – является национальным праздником Уэльса.

* В луке может содержаться больше сахара, чем в яблоке или груше, – 6%. Во время его приготовления из овоща испаряются летучие вещества, вследствие чего лук становится сладким.

* Бытует мнение, что люди, выращивающие в теплицах лук, меньше подвержены заболеваниям ОРВИ и гриппом.

* Сок лука является отличным обезболивающим средством от укусов шмелей, ос и пчел.

ШАХМАТЫ

## Творчы дуэт

Некалькі сумесных задач прапанавалі нам **Аляксей Азаў** з Гомеля і **Віктар Жук** з Брэста. Ва ўсіх – мат за 3 хады.




№1 *(гл.дыяграму)* **Белыя:** Крb3, Фb7, Cd5, Кb4 (4).
**Чорныя:** Крd6 (1).

№2 **Белыя:** Крb3, Лf6, Ce1, Cf3, Кb5 (5).
**Чорныя:** Крe3, пd3 (2).

№3 **Белыя:** Крf7, Лg3, Cf8, Кe4, пg2 (5).
**Чорныя:** Крh5, пg4 (2).
**Блізня:** Крh5 на h4.

№4 **Белыя:** Крf8, Фf2, Кe7, пп. a3, c2 (5).
**Чорныя:** Крe4 (1).
**Блізня:** Кe7 на d7.

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru***.

## Аўтарскі конкурс рашэння

Яго арганізуе наш чытач **Міхаіл Кошаль**. Жадаючым удзельнічаць неабходна даслаць СМС са сваім імем, прозвішчам, паштовым або электронным адрасам на нумар М.Кошаля: **8-025-5230799**.

## Хто мацнейшы ў Еўропе?

У Ясах (Румынія) прайшоў жаночы чэмпіянат Еўропы (117 удзельніц). Перамагла **Эліна Даніелян** (Арменія). З беларусак лепшы вынік паказала **Вольга Бадэлька** – 11-е месца. **Яна Ільючык** – на 43-й пазіцыі (выканала норму міжнароднага майстра), **Аляксандра Тарасенка** – на 59-й (лепшы вынік сярод дзяўчат да 16 гадоў), **Ксенія Зелянцова** – на 97-й.

***Іна Агрэст – Вольга Бадэлька***

1.e4 e5 2.Кf3 Кc6 3.Cb5 Кf6 4.0-0 К:e4 5.d4 Кd6 6.de К:b5 7.a4 d6 8.e6 C:e6 9.ab Кe5 10.Кd4 Ce7 11.Кc3 Cd7 12.f4 Кg4 13.Кd5 0-0 14.f5 Кf6 15.К:e7+ Ф:e7 16.Лa3 Лfe8 17.Лg3 Крh8 18.Cg5 c5 19.bc bc 20.Лe3 Фf8 21.Лh3 Кe4 22.Фh5 h6 23.Cc1 Кf6 24.Фf3 c5 25.Кe2 Cb5 26.Лf2 Лe4 27.Cg5 Лae8 28.Кg3 Лe1+ 29.Кf1 Кe4 30.C:h6 gh 31.Фf4 К:f2 32.Л:h6+ Крg8 33.c4 C:c4, 0:1.

***Б'янка Хаванец – Яна Ільючык***

1.d4 Кf6 2.c4 g6 3.Кc3 Cg7 4.e4 d6 5.Cd3 0-0 6.Кge2 e5 7.d5 a5 8.0-0 Кa6 9.Cc2 Кc5 10.b3 Кg4 11.h3 Кh6 12.Лb1 f5 13.f4 ef 14.C:f4 g5 15.Ch2 f4 16.a3 Ce5 17.Кb5 Cd7 18.Кbd4 Фf6 19.b4 ab 20.ab Кa6 21.Фd3 Крh8 22.Лf2 Лg8 23.Крh1 Лaf8 24.Лff1 Фg6 25.Фd2 Лf6 26.Cd3 Лgf8 27.Лbc1 Фh5 28.c5 f3 29.К:f3 C:h3 30.C:e5 de 31.Кg3 Фg4 32.Кf5 К:f5 33.ef К:b4 34.К:e5 C:g2+ 35.Ф:g2 Лh6+ 36.Крg1 Фd4+ 37.Лf2 К:d3 38.К:d3 Ф:d3 39.Фf3 Лh3 40.Ф:d3 Л:d3 41.Лb2 Л:d5 42.Л:b7 Лf7 43.c6 Крg7 44.Лa7 Лd:f5 45.Лd1 Лc5, 0:1.

## Гуляе моладзь

У Брэсце прайшлі юнацкія і дзявочыя першынствы Беларусі ў некалькіх узроставых катэгорыях па хуткіх шахматах (рапідзе) і бліцы.

Сярод дзяўчат да 8 гадоў у абодвух відах праграмы перамагла **Насця Савасцянчук**, да 10 гадоў – **Кіра Ізафатава** ў рапідзе і **Ніка Венская** ў бліцы, да 18 гадоў – **Варвара Палякова** ў абодвух відах.

Сярод юнакоў да 8 гадоў лепшымі былі **Арцём Астапенка** (рапід) і **Давід Даброўскі** (бліц), да 10 гадоў – **Раман Дасюк** (рапід) і **Мацвей Савельеў** (бліц), да 18 гадоў – **Максім Царук** у абодвух відах.

Праз некалькі дзён аналагічныя турніры, але ў іншых узроставых групах, прайшлі ў Гродне. Сярод юнакоў да 12 гадоў у рапідзе перамог **Радзівон Сідарэня**, у бліцы – **Аляксандр Гвоздзь**, да 14 гадоў – адпаведна **Міхей Навуменка** і **Арцём Бляўускі**, да 16 гадоў – **Ягор Сіліч** і **Арцём Сіняўскі**. Сярод дзяўчат: да 12 гадоў – **Маргарыта Бендзік** і **Варвара Мацкевіч**, да 14 гадоў – **Ксенія Норман** і **Юлія Лявонава**, да 16 гадоў – **Варвара Палякова** (у абодвух відах праграмы).

Маладыя беларускія шахматысты бралі ўдзел і ў юнацкім анлайн-чэмпіянаце свету. У стадыю плэй-оф выйшлі ў сваіх узроставых групах **Міхей Навуменка** (у выніку ён заваяваў бронзавы медаль сярод юнакоў да 14 гадоў), **Дзяніс Лазавік**, **Максім Царук**, **Ксенія Зелянцова** і **Аляксандра Тарасенка** (дарэчы, паядынак у 1/8 фіналу паміж дзяўчатамі скончыўся з лікам 2:0 на карысць Ксеніі).

**Арцём Стрыбук** заняў 2-е месца на юнацкім Кубку М.Бацвінніка ў Маскве, а **Марына Хоміч** была там трэцяй сярод дзяўчат.

## Праверце адказы

Задача **М.Кошаля**, змешчаная ў «Народнай Волі» 3 верасня, рашаецца: **1.Кf2!** Не вядзе да мэты 1.Лe3? Cd3! або 1.Кf6? g1Ф!

Першымі правільна рашылі **Ігар Ананіч**, **Васіль Жуковіч**, **Віктар Жук**, **Сяргей Цыльпук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

ЗАКУЛІССЕ

## У Вялікім тэатры – новыя правілы



З-за росту захворвання на каранавірус у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета ўвялі шахматную рассадку ў глядзельнай зале.

*«Пры набыцці квіткоў на спектаклі звярніце ўвагу на новую схему залы»*, – рэкамендуюць у тэатры. На вольных крэслах цяпер вісіць аб'ява: *«У гэтым крэсле сядзіць Муза. Просьба не займаць!»*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ